# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1794) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 30 ВЕРАСНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




ВОСЕННЮ Ў ПОЛІ. Фота В. Рудчыка

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

Мы, ніжэй падпісаныя прадстаўнікі гмінаў у асобах:

1. Тапалянскі Ян
2. Семянюк Васіль
3. Бартнічук Мікалай
4. Баенскі Мікалай
5. Паплаўскі Віктар
6. Паплаўскі Яўген
7. Навіцкі Ян
8. Павільч Мікалай
9. Мышко Вячаслаў
10. Кучынскі Сцяпан
11. Мацкевіч Рыгор
12. Аверчук Марыя

дэкларуем волю стварэння міжгміннага саюзу з мэтаю рэалізаваць заданні, якія тычацца непадзельнай маёмасці, і весці публічна карысную дзейнасць, якая перасягае магчымасці аднае гміны, а таксама займацца гаспадарчымі справамі згодна з грамадскімі патрэбамі.

Аднačасова даем згоду войту гміны Нарва каардынаваць дзеянні, звязаныя са стварэннем і рэгістрацыяй камунальнага саюзу.

Нарва, 8 верасня 1990 года.
(дванаццаць подпісаў)

## РАЗАМ ДЗЕЛЯ СВАЙГО ВЫРАТАВАННЯ

8 верасня па ініцыятыве войта Нараўскай гміны Яна Тапалянскага ў Нарве адбылася сустрэча прадстаўнікоў гмінных уладаў (войтаў і радных) з сямі гмінаў Усходняе Беласточчыны: Белавежы, Гарадка, Бельска, Мілейчыц, Нараўкі, Нарвы і Чыжоў. У сустрэчы прынялі ўдзел таксама дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання: Сакрат Яновіч, Віктар Стахвюк, Яўген Міpановіч, Пятро Юшчук і Ян Максімюк.

На сустрэчы абмяркоўвалася эканамічная сітуацыя гмінаў Усходняе Беласточчыны ў сувязі з палітычна-грамадскімі пераўтварэннямі ў краіне і з новымі абставінамі, у якіх апынулася сельская гаспадарка. Прысутныя ўказалі на асноўныя цяжкасці, з якімі сутыкаюцца гміны „ўсходняй сцяны", што свой эканамічны быт абапіраюць на сельскай гаспадарцы: недахоп рынкаў збыту для сельскіх прадуктаў, слабую гаспадарча-паслуговую інфраструктуру ў гмінах, адсутнасць сродкаў для новых інвестыцый, дэмаграфічны заняпад усходнебеластоцкай вёскі.

Ідэю стварэння саюзу гмінаў Усходняе Беласточчыны абгрунтаваў намеснік старшыні Галоўнай рады БДА Яўген Міpановіч. Перспектыву эканамічнага выратавання і, у далейшым, развіцця гмінаў Усходняе Беласточчыны, казаў ён, трэба бачыць у сельскай гаспадарцы. Сельскую гаспадарку трэба засіліць інвестыцыямі ў выглядзе невялікіх мясцовых прадпрыемстваў: мясарняў, сушарняў, пякарняў, млыноў, цагельняў, кафлярняў і г.д. Усё гэта дзеля таго, каб мець магчымасць перапрацаваць сельскія прадукты і даступную мясцовую сыравіну ў гмінах на месцы. Продаж сыравіны (бульбы, збожжа, лесу і г.д.) не дасць і ў палове такога прыбытку, як продаж апрацаваных прадуктаў. Але для большасці нашых гмінаў нават адна інвестыцыя будзе не пад сілу, не кажучы ўжо пра цэлую гаспадарча-прамысловую інфраструктуру. Таму выйсце адно: стварыць міжгмінную структуру — камунальны саюз — і памкнуцца каардынаваць намаганні ў стварэнні такой інфраструктуры на тэрыторыі большай колькасці гмінаў. Вядома, кожная гаспадарчая інвестыцыя цяпер звязаная з фінансавай рызыкай. Але ступень той рызыкі намнога меншая, калі ў рэалізацыі нейкай інвестыцыі ангажаваны сродкі ад некалькіх гмінаў. Гэта, калі мець на ўвазе будучыню. На сягоннішні дзень неадкладна трэба знайсці збыт для мяса, збожжа і бульбы нашых гаспадароў. Зноў жа камунальны саюз дае магчымасць эфектыўна арганізаваць „банк" гаспадарчай інфармацыі для гмінаў і каардынаваць гандаль. Мы мусім мець на ўвазе, казаў далей Я. Міpановіч, што адзіны шанц для нашых гаспадароў — гэта ўсходні рынак, канкрэтна, сумежная Беларусь. Нам разам трэба пашукаць гандлёвых кантактаў з Беларуссю і наладзіць карысны для абодвух бакоў тавараабмен.

Юрыдычны дарадчык БДА Пятро Юшчук, абапіраючыся на закон аб самаўрадах, растлумачыў прысутным юрыдычныя аспекты стварэння камунальнага саюзу і даў дэталёвую інфармацыю пра магчымасці весці гаспадарчую дзейнасць гмінамі, якія моцаю закона аб самаўрадах надзелены правам юрыдычнай асобы.

Старшыня Галоўнай рады БДА Сакрат Яновіч сцвердзіў, што прыстасаванне гмінаў да новай гаспадарчай сітуацыі будзе доўгім працэсам, асабліва на Усходняй Беласточчыне. І нельга спадзявацца на хуткія поспехі. Таксама і ад камунальнага саюзу гмінаў Усходняе Беласточчыны. Але ён неабходны, бо „ўсходняя сцяна" выратавацца можа ад гаспадарчай дэгенерацыі толькі ўласнымі сіламі. У маштабе краіны гаспадарчая роля Усходняе Беласточчыны зусім неістотная, таму аніякая палітычная сіла (акрамя БДА) не будзе сур'ёзна зацікаўлена дапамогай гэтаму рэгіёну. БДА дэкларуе сваю дапамогу будучаму камунальнаму саюзу Усходняе Беласточчыны перш за ўсё ў наладжванні гандлёвых кантактаў з Беларуссю і ў юрыдычным забеспячэнні яго дзейнасці.

Прадстаўнікі сямі гмінаў склалі і падпісалі дэкларацыю волі аб стварэнні міжгміннага саюзу (яе тэкст прыведзены вышэй). Каардынацыю дзеянняў, накіраваных на стварэнне і рэгістрацыю камунальнага саюзу яны даверылі войту Нараўскай гміны Яну Тапалянскаму. Узгоднілі, што тэкст дэкларацыі будзе апублікаваны ў прэсе, а дакладнейшая інфармацыя аб сустрэчы ў Нарве будзе накіравана ў гмінныя ўправы ў Орлі, Дубічах-Царкоўных, Кляшчэлях, Чаромсе і Гайнаўцы, прадстаўнікі якіх, хоць запрошаныя, на сустрэчы не прысутнічалі.

Ян Максімюк

## Пра нашых пісалі...

### МЫ — ПАРТЫЯ „ЎСХОДНЯЙ СЦЯНЫ“

**Пад такім загалоўкам у 36 нумары тыднёвіка „Палітыка“ ад 8 верасня г.г. было надрукавана інтэрв'ю з САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ. Нашым чытачам прапануем маленькі фрагмент гэтай розмовы.**

*— Што з нацыянальнай свядомасцю беларусаў, якія жывуць у Польшчы?*

— Беларусамі ў Польшчы з'яўляюцца, галоўным чынам, сяляне. А навошта селяніну нацыянальная свядомасць? Нацыянальную свядомасць стварае перш за ўсё горад.

*— Але яны гавораць на беларускай мове?*

— Мова і нацыянальнасць не заўсёды абазначаюць адно і тое ж. Бельгійцы ў палове гавораць па-французску, але не адчуваюць сябе французамі. Нацыянальная свядомасць — гэта праблема асветы, дасягненне пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню. Асіміляцыя заўсёды затрымоўваецца на парозе культурнасці. У дамах, дзе знаходзяцца беларускія кніжкі, дзе ведаюць, што такое Беларусь і што значыць быць беларусам, — там асіміляцыі, паланізацыі няма. Але асіміляцыя ў грамадскім маштабе спасцігае заўсёды неадукаваныя масы. Асіміляцыя — гэта інструментальная трактоўка мовы. Я, будучы на Захадзе, лаўважыў такую з'яву, што менавіта дзеці польскіх эмігрантаў з інтэлігенцкай праслойкі гавораць амаль добра па-польску. Але дзеці неадукаваных людзей польскай мовы ўжо не разумеюць. Няма там таго парога культурнасці, які ўтрымлівае асіміляцыю. Амаль гэтак жа сама дзеецца і ў нас з беларускай мовай. Найменш асімілявалася руская эміграцыя, а гэта менавіта таму, што яна выразна інтэлігенцкая эміграцыя. А плебейскія дзеці не выхоўваюцца ў нацыянальным духу таму, што „нацыянальны дух“ ні ў чым ім не дапамагае. Нацыянальнасць — гэта вышэйшая патрэба. Калі чалавек кіруецца толькі філасофіяй жывата, а яго мэта — здабыць хлеб і матэрыяльны дабрабыт, то ён нацыянальнасці не захавае. Гэта яму не спрыяе паляпшэнню жыцця, а часам наадварот. І той самы механізм дзейнічае тут. Навошта селяніну нацыянальнасць? Ці ад гэтага будзе больш свіней?

*— Дык у сувязі з гэтым пачуццё беларускасці на гэтай тэрыторыі Падляшша адступае?*

— Наадварот. Яно ўзрастае. Мы як Беларускае грамадска-культурнае таварыства і як партыя Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ці Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“ развіваем шырокую культурную дзейнасць сярод моладзі. Гэтыя маладыя людзі, часам быццам наперакор сваім бацькам, хочуць стаць беларусамі. Нават выходзяць дзве газеткі, пісаныя па-польску менавіта гэтымі маладымі людзьмі ў беларускім духу. Маладыя настаўнікі, аграномы, ветэрынары спешна вучацца мовы сваіх бацькоў. Бацькі іх гэтага не навучылі. Бацькі іх навучылі толькі зарабляць грошы.

*— Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне прымала ўдзел у выбарах у самаўрады. З якім вынікам?*

— У шасці гмінах гмінныя рады амаль у ста працэнтах беларускія. У іншых сямі гмінах маем значны ўдзел, які дасягае паловы радных.

*— Ці там, дзе беларусы складаюць большасць, на сесіях будуць гаварыць па-беларуску?*

— Чакаем сеймавага закона аб меншасцях, які вырашыць гэтыя праблемы. Калі гэты закон увойдзе ў сілу, то беларуская мова будзе раўнапраўная з польскай. Гэта значыць, што вядзенне размоў і пісанне па-беларуску не будзе злачынствам супраць польскай дзяржавы.

*— Аб'яднанне, якія яно ставіць сабе мэты?*

— Мы гаворым, што гэта партыя „ўсходняй сцяны“. Якраз гэтая сцяна — гэта эканамічны і культурны інфаркт. Мы супраць стварэння пустыні на гэтай тэрыторыі, супраць паглынання людзей гарадамі. Беласток увабраў жа палову людзей рэгіёна, ён хварэе на комплекс Парыжа. Разліваецца, як алей па вадзе. І адначасна тэрыторыя пераўтвараецца ў эканамічную пустыню. А гэта абазначае для нас таксама нацыянальную смерць. Калі перастанем мець этнічную тэрыторыю, то растопімся як меншасць у гэтай вялікагарадской стыхіі. Таму галоўным заданнем для нашага аб'яднання з'яўляецца барацьба за недапушчэнне да эканамічнага заняпаду гэтага рэгіёна. І барацьба за родную мову, за права на развіццё нацыянальнай культуры. Родная мова — як маці. Ніхто ж не можа змяніць сабе маці.




### У РОДНЫМ КРАІ

*Пасьля рамана Дж. Оруэла „1984“*

Старэйшы Брат глядзіць
з надзеяй.
Ён усьміхаецца ў калматыя
вусы свае.
Затым прыжмурыць вочы
— любата.
Няма вачэй, адны густыя бровы.
І толькі мудрасьці пячаць на
лысай галаве.
Ён самы лепшы брат
— Старэйшы Брат.
На прасторах вялікай
шматлюднай краіны...
Ад малога да вялікага...
(паважалі Косьцю-марака).
Брат казаў пра свае
дасягненьні,
І ведалі ўсе — вялікі, мудры ды
пяшчотны,
Ён дбае аб нашых сынох. А тыя
Ў краінах далёкіх тлумачаць:
„З Расіі я. Рускі.“
І былі сыны ў бацькі, зь якіх
старэйшыя разумныя,
А трэці яшчэ маладзенькі
— во дурань жа...
Перахітрыў, казалі, трэці сын
старэйшых.
Казалі, меншы стаў царом.
Якога роду-племені?
Старэйшы Брат, ты столькі
маеш у Крамлі
„Пасланцаў“ брата меншага.
Й дурнога.
А мо' яны — разумныя ужо?
Яны кіруюць меншымі...
Яны за панібрата
са старэйшым...
З народу выйшлі. Не вярнуліся.
Навекі.
З кім. Засталіся у краёх чыіх?
Чужых.
Старэйшы Брат глядзіць.
Ён там, ён тут:
На тэлеэкране. На партрэтах.
У кнігах. У галовах.
Нішто няма. Ёсьць толькі Ён
— бязь іншых.
Бо Воля — Рабства. Радуйся,
халопе!
Вайна — то Мір. Перамагай
у „гістарычных“ бойках!
Няведаньне — Сіла. Чужая.
Бясьсільле тваё.
Ты будзеш нешта ведаць
— і забудзеш.
Мой мудры Брат! „Разам
шукалі... к шчасьцю дарог...“

**Уладзімір Пучынскі-Пірог**

### ЧОРНЫ БУСЕЛ

Чорны бусел
Над Белаю Руссю
Свае чорныя крылы раскінуў.
У „Чырвоную Кнігу“ занесены
бусел —
Каб зусім ён са свету не згінуў...

Чорны бусел,
Так людзі казалі,
Ты у хату прыносіш вяселле.
Мы жылі, працавалі, кахалі,
Мы не верылі ў жудасць здарэння...

Боль Чарнобыля —
Боль Беларусаў.
А хто нас занясе
У „Чырвоную Кнігу“?!
Людзі добрыя!
Зрываецца з вуснаў,
Вы не дайце народу загінуць.

**Аляксандр Маскалік**

# Будзе новая царква ў Беластоку

**Першага верасня 1990 г. у Беластоку ў Старасельцах, на новых могілках прыхода святога Мікалая, адбылася сустрэча праваслаўных, у час якой архіепіскап Сава адслужыў літургію, а затым быў замураваны Акт пабудовы пад новую царкву — царкву святой Ефрасінні Полацкай, а таксама Іаана Кранштацкага і Іаана Рыльскага.**

**Гэта першая царква на Беласточчыне, якая атрымае імя Ефрасінні Полацкай. Гэтае імя непадзельна звязана з культурай беларускага народа ад XII стагоддзя, з духоўным і рэлігійным жыццём беларускага насельніцтва тых часоў.**

**Паміж сучаснасцю і часамі, калі жыла славутая палачанка, — больш васьмі стагоддзяў. Не дзіва, што гісторыя захавала пра яе не надта багатыя звесткі. Ды і тое, што было вядома, доўгія гады замоўчвалася. „Асветніца з роду Усяслава“ (як піша пра Ефрасінню Полацкую Ул. Арлоў), пайшоўшы ў манастыр і прысвяціўшы сябе шырэнню асветы сярод народу, перакладала і перапісвала кнігі, пазней, заснаваўшы два манастыры, яна надала пашырэнню пісьмовага слова вялікі размах. З яе імем звязана полацкае летапісанне і заснаванне бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора.**

**Важнае месца ў жыцці Ефрасінні займала педагагічная дзейнасць. Яна арганізавала школы пры манастырах і старалася, каб дзеці разам з граматай навучаліся „чысціні духоўнай і бясстрашнасці цялеснай“.**

**Дзейнасць святой Ефрасінні значна апярэдзіла свой час і набыла агульнанароднае значэнне і святое прызнанне.**

**Дзякуючы вялікім намаганням настаяцеля прыхода Серафіма Жалезняковіча, удалося купіць зямлю, на якой ужо зроблены фундаменты пад новую царкву. Тут жа, на могілках, будзе пабудавана яшчэ адна царква, з якой будуць праводзіць назаўсёды парафіяне сваіх блізкіх, каб потым наведваць тут тых, што адышлі навечна.**

**Цяпер там зроблены толькі выкап і фундамент, тут жа стаіць крыж з бел-чырвона-белай стужкай, пры якім адбылася ўрачыстасць.**

**Гэтае месца, дзе вырасце новая царква св.св. Ефрасінні Полацкай, Іаана Кранштацкага і Іаана Рыльскага, стане яшчэ адным месцам у Беластоку, якое будзе прыцягваць праваслаўных і беларусаў, каб памянуць тых, каго няма ўжо сярод нас, ды і прызадумацца над лёсам чалавека і ўсяго народу.**

**Я. ЗЕНЮК**



*Святая Ефрасіння Полацкая.*
*Рэпрадукцыя В. Рудчыка*

## ПОГЛЯДЫ

### НОВЫ ЧАС

Гляджу я на змены не толькі ў краіне, але ва ўсім свеце, і сумую. Не ідзе да лепшага. Яшчэ два гады таму можна было нешта ў сваім жыцці запланаваць, і гэта памалу рэалізавалася. Цяпер не ведаеш, на якім свеце жывеш. Калі сацыялістычныя краіны перайшлі ў капіталізм, скарысталі на гэтым толькі даўнія фабрыканты і ўласнікі вялікіх абшараў зямель. Гаворыцца, што фабрыкантам трэба не толькі вярнуць іх прадпрыемствы, але аддаць ім прыбытак за сорак гадоў! Ці ж праз сорак гадоў дзяржава нічога не дакладала да таго прадпрыемства?

Гаворыцца аб людской крыўдзе, г.зн. аб крыўдзе паноў, а нічога — аб крыўдзе працуючых масаў. Не гаворыцца, у якіх умовах жылі такія людзі, чаму столькі было непісьменных, чаму так часта жанчыны паміралі пры родах і чаму людзі не мелі грошай на лячэнне і лепшую яду.

Цяпер зноў чалавек працы — гэта нішто. Ліквідуюць прадпрыемствы і людзей звальняюць з працы. Даюць тым людзям успамогу для беспрацоўных, але ці гэтых грошай стольկі, каб хапіла заплаціць за жыллё, за харчы?

Ёсць прапановы работы для беспрацоўных ад прыватных уладальнікаў прадпрыемстваў, але некаторыя рабочыя вельмі хутка пакідаюць працу. Калі ўмовы працы добрыя — можна працаваць, а калі не вельмі — хто будзе дарэмна рукі біць!

Я дам адзін прыклад, як працуецца ў некаторых прадпрыемцаў.

У гэтым годзе было мала трускалак, многа вымерзла. У адной жанчыны было многа. Некалькі гарадскіх дзяўчат пайшлі на заробкі да збору. Грошай не хацелі, але за дзень працы — вядро трускалак. Была акурат вялікая гарачыня. Дзяўчаты рвалі спачатку нармальна, а пасля на каленях, а потым і лежачы. Гаспадыня не дала нават вады. Толькі пад вечар яе ўнучак прынёс бутэльку.

На другі дзень да працы ніхто не прыйшоў.

Будуць платныя школы і бальніцы. Гэта трагедыя для бедакоў. Мала каму хопіць грошай, каб заплаціць за навуку дзяцей. Мала хто будзе магчы лячыцца. Ізноў будуць людзі паміраць нават ад сляпой кішкі?!

Народная ўлада столькі зрабіла, каб усе мелі працу, каб усе былі адукаванымі, а цяпер зноў вяртаемся да тых змрочных часоў?!

Памятаю, як добра было летам у лагеры. А я сваіх дзяцей не пашлю летам на адпачынак, бо не будзе за што... На пачатку лета была ў радыё жабрачая просьба дзіцяці: „Запрасі дзіця на канікулы, запрасі дзіця на канікулы". Што з такіх канікулаў?!

(Працяг на стар. 5)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. Царква на Антонюку. Мал. У. Петрука.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 14 —

Лаўлю сябе на тым, што ніколі не баяўся я камунізму так дрыготка, як цяпер, калі ён ужо разлёгся канаць і столькі аганальна шчырага даведаўся пра яго. З гэтым трохі, як з маім дзяцінствам пад нямецкай акупацыяй, жахлівасці якой дайшлі да маёй існасці потым. Я не варагаваў камуністам; наадварот — схіляўся да іх. Гэта яны адштурхоўвалі мяне ад сябе. На маё, даверлівае тады, здзіўленне, я не падабаўся ім у адным: упарціўся заставацца беларусам. На гэтым пункце і зрабілі з мяне антыкамуніста ды антысаветчыка; іншых разыходжанняў не было. Нiраз раздумваю аб тым, чаму гэты палітычны лад з такой заядласцю фабрыкаваў праціўнікаў, усё роўна як бы сам нецярпліва прыспешваючы па-вар'яцку сваю пагібель?!

Загадкі быццам і няма... У сённяшнім працікамунізме у нас я надалей хаджу ў варагах па той жа нацыянальнай прычыне, хоць учарашнія маюць праследнікі змянілі чырвоны фронт на белы (праўда, не ўсе). Тут дакранаюся я, відаць, да вельмі простай справы — няма месца для Беларусі паміж інтарэсамі Расіі і Польшчы (не ідэалогіі, а народы вечныя!). Яго стала бракаваць ад Люблінскай уніі ў 1569 годзе, калі Іван Грозны купаўся ў беларускай крыві і вярстовымі абозамі вывозіў дабро з Полаччыны. Былі да таго моманту ў Вялікім княстве Літоўскім тайныя задумы аперацыя на Маскву, як учыніў тое стагоддзем пазней гетман Хмяльніцкі са сваёй запарожскай дзяржавай. Розніца лёсаў такая, што еўрапеізаваная Польшча дала рады асіміляваць палітычны народ Літвы, а — для аналогіі — русіфікацыя прымітыўным царызмам украінскай Маларасіі аказалася яму не пад сілу і ліквідавалі гайдамацкую аўтаномію звычным для расіянаў спосабам: выразалі і спалілі Запарожжа, яго атаманаў з асалодаю замучылі ў лёхах (у росквіт царавання Кацярыны II).

Чаму Беларусі (і Украіны) не ўдаецца спляжыць на вякі вякоў? Дэнацыяналізаваць, павывозіць, голадам вынішчыць, перастраляць, засяліць каланіяльнай стыхіяй... Яшчэ старажытная Рымская імперыя падобным чынам адолела — акрамя Грэцыі — паўднёвую Еўропу. І чым гэта для яе закончылася? Вяртаючыся ў наш час — савецкія Эстонія і Латвія адкалваюцца ад Саюза, хоць у іх — практычна — кожны другі чалавек лічыцца рускім або рускамоўным. Якая моц выклікае неадольную цягу да незалежнасці?

Гэтай таемнай сатаною, якая нашэптвае нязгоду на залежнасць ад кагосьці далёкага, ёсць — эканоміка. Дакладней: перспектыва на багацейшы стол і большую ў жыцці выгоду. Нават руская Сібір палохае Маскву сепаратызмам, зморана абзываючы Расію каланізатарам ды імперыялістычным эксплуататарам! — знаходзячы, вядома, дзеля гэтага блізкія гістарычна падставы. Адзінае, што пераконвае мінскую „тоже-белорусскую" публіку да ідэі самастойнасці Беларускай ССР — гэта рахунак: рэспубліка дае куды больш у саюзныя фонды, чымсьці атрымлівае ад іх! Свядомасць матэрыяльнай крыўды народа будуе нацыянальную яго эмансіпацыю. На бітвы за святлейшае заўтра заўсёды ідуць пад адпаведным сцягам. Ён ужо беларускі, нарэшце, і таму я перастаю хварэць за будучае роднай нацыі, схопліваца паначы з пасцелі ад макабрычных сноў аб канчыне яе. Аднак, жыве Беларусь!

*(Працяг будзе)*

### СЕМЯНОЎКА НА КАНЦЫ СВЕТУ?

**У жніўні г.г. паслаў я ліст з Белавежы ў Семяноўку. Адрасатка чакала, чакала і... не дачакалася, а яшчэ абурылася на мяне, што я лянуюся адпісаць ёй. Паслаў я другі ліст. Дайшоў, але... праз 5 дзён! Адлегласць з Белавежы ў Семяноўку усяго каля 50 км. Цяпер я ўсё думаю, што рабіў мой ліст амаль цэлы тыдзень? Грыбы ў пушчы збіраў? Але, вось, неўзабаве атрымаў я зваротны ліст з Семяноўкі. Гэты ў сваю чаргу ішоў... 6 дзён!**

**Цікава, што ліст, высланы з Белавежы, ідзе ў Беласток два дні, у Варшаве атрымоўваюць яго на трэці дзень, таксама ў Эльблёнгу, а ў Лодзі на чацверты дзень. Якія жа тады перашкоды знаходзяцца на шляху Белавежа—Семяноўка?**

**П. Байко**

## ЛІСІЧКІ

Кілаграм лісічак каштуе цяпер на скупцы 50-60 тысяч злотых. Лясы на Беласточчыне вытаптаныя, кастрыца разараная, павыдзераныя, мусіць, нават зародышы грыбоў. Ужо мала грыбоў нават у старых, багатых грыбных месцах.

Ехалі лісічкі з Літвы, з Беларусі... І едуць, хаця не кожны іх прывязе. Цяпер каля таможні ў Гродне — аж жоўта.

Мы ўжо перайшлі таможны кантроль. Стаяць некаторыя людзі з парожнімі сумкамі.

— Як грыба таго шкадаваць! Колькі ж можа чалавек у руцэ прынесці, 10-15 кілаграмаў, не больш.

— Але калі начальнік таможні ў Кузніцы Мінкоўскі сказаў, што ён не прапусціць ні грыбка, то таможнікі ў Гродне пільнуюць гэтага і кажуць: „Ваш начальник не разрешил!" Раней грыбоў можна было везці на 30 рублёў, абы тут, на вакзале, іх праверылі на радыяцыю.

— Я тыдзень таму пытала нашага таможніка, колькі ў Польшчу можна ўвозіць грыбоў. Ён кажа: „Колькасць не гандлёвую". „А колькі гэта? Кілаграм, два, дзесяць?" „Я вырашаю, якая колькасць гандлёвая". І людзі выкідалі грыбы ў кош, а каб ніхто не выбраў іх сабе, таўклі або высыпалі на тратуар, на траву, тапталі.

— Я бачыў, як выкінулі з вагона цэлую кардонку лісічак,

# З вандровак па роднай зямлі

**Частка II**

**У ЧАРОМХУ**

З Дабрывады кіруемся ў Рэпчыцы. Пад нагамі пясок ды пясок. Добра, што хоць уначы дожджык пакрапіў... Паабапал дарогі сасновы маладняк. Штораз больш на Беласточчыне маладнякоў, штораз менш людзей на вёсках. Такая беларуска-беластоцкая рэчаіснасць.

Дарога сыходзіць уніз, у даліну Нурца. За крутым паваротам вітаем першыя хаты Рэпчыц, маленькай вёсачкі, прыгожа раскінутай сярод саснякоў і старых ельнікаў. Вёска ўзнікла дзякуючы рэчцы Нурэц. Тут здаўна стаяў вадзяны млын. Першыя весткі аб ім паходзяць з 1576 года, з якіх даведваемся, што „Грыч Ропчыч плоціць за млын на рэчцы Нурцы". Праўдападобна, сам род Рэпчычаў паходзіў з Кляшчэль, дзе пад 1560 г. упамінаецца пра Давіда Рэпчыча і Трахіма Рэпчыча. З Рэпчыц зусім недалёка да Кузавы.

**КУЗАВА**

Першапачатковая назва вёскі — Бабічы (першая вестка з 1560 г.). З бліжэй невядомых прычын у пал. XVII ст. вёска, тады з фальваркам, прымае новую назву. Чаму менавіта нейкі кузаў (кош) заважыў на назве сяла? Магчыма, што ўжо ў XVI ст. стаяла ў Кузаве царкоўка, хаця першыя весткі дайшлі да нас толькі з 1828 года.

Вёска часта гарэла. У адным з пажараў, які шугаў над вёскаю ў першыя дні I сусветнай вайны ў 1914 годзе, полымя праглынула тую старую, драўляную святыню. На царкоўным пляцы і сёння стаяць даўнія, драўляныя абпаленыя крыжы, што калісьці акружалі царкву.

Пасля вяртання з „бежанства" жыхары Кузавы адразу пачалі старацца адбудаваць царкву. Час, аднак, як вядома, не спрыяў такога тыпу ініцыятывам. Улады II Рэчыпаспалітай рэзка абмяжоўвалі дзейнасць Праваслаўнай царквы, намерваючыся як мага больш падпарадкаваць яе дзяржаве, запрэгчы ў службу паланізацыі крэсаў. Першым этапам наступу паланізацыі мелі стацца землі да лініі Керзана, Холмшчына і Падляшша. У такой атмасферы, за думкаю адміністрацыі, у красавіку 1935 года ўтварылася ў Беластоку Аб'яднанне праваслаўных палякаў. Мэтай аб'яднання было перш за ўсё мэтанакіраваная паланізацыя багаслужбаў, навукі рэлігіі, царкоўных выдавецтваў і ў выніку — усяго народу.

З узнікненнем таго Аб'яднання ў Беластоку звязана і пабудова ў 1936 годзе новай капліцы ў Кузаве. Тутэйшыя людзі, не бачачы пасля доўгіх намаганняў іншага выхаду, ідуць на кампраміс з уладамі. Улады дазваляюць ім пабудаваць храм пры ўмове, што мае ён быць узведзены для ўшанавання маршала Пілсудскага... Капліцу высвячалі ўжо ў маі таго ж года. Прысутныя былі паветовыя ўлады, у памяць Маршала справілі малебен. А кузаўцы, разам з задавальненнем з новай святыні, перажывалі, пэўна, і духоўныя пакуты, гледзячы на партрэты патрона на царкоўнай браме і крыжы. Царкоўка гэтая згарэла ў вялікім пажары ў час II сусветнай вайны. Нанава кузаўцы адбудавалі царкву св. Варвары толькі ў 1980 годзе.

Памаліўшыся ў гэтай жа царкве, мы адправіліся ў далейшую дарогу. Яшчэ можам заглянуць да асаблівага „варажбіта", якога аматары беластоцкай „экзотыкі" з усяе Польшчы ведаюць пад прозвішчам Карпінскі. Гэтага дзядулю з доўгай белай барадою часта можна пабачыць на Грабарцы ды амаль усіх „адпустах" на Беласточчыне.

**ЧАРОМХА**

З Кузавы найперш падаемся ў Чаромху-вёску. Яшчэ ў 1661 годзе яна называлася Нурэц і было гэта „сяло месцкае" Кляшчэль. Праз яе вёў той жа, што і праз Кляшчэлі, Берасцейскі тракт. Гэта спрыяла хуткаму развіццю вёскі.

Пры самым тракце ў лесе, на поўдзень ад Чаромхі, сярод магільных крыжоў стаіць старадаўняя царкоўка. Паводле айца Рыгора Сасны, першая звестка пра яе паходзіць з 1797 года. Тутэйшыя людзі, аднак, запэўніваюць, што ў час апошняга рамонту на алтарнай сцяне знайшлі дату, быццам яна з XVII ст. Потым надпіс закрылі шалёўкай. Царкоўка яшчэ да-

**(Працяг на стар. 8)**

## ПОГЛЯДЫ

**(Працяг са стар. 4)**

У гэтым годзе ў многіх сялян змарнавалася шмат бульбы. Ніхто яе не купляў. Пры папярэдняй уладзе ўсё было патрэбнае, на ўсё быў збыт. А цяпер нічога не трэба?

Маладыя людзі пасля тэхнікумаў і універсітэтаў не могуць атрымаць работы. Дойдзе да таго, што людзі перастануць верыць у навуку і патрэбу адукацыі.

Рэлігія вяртаецца ў школу. Для мяне гэта нічога не абазначае. Хто верыць у Бога і хто хацеў вучыцца катэхізму, той вучыўся. Вяртаннем рэлігіі ў школы людзі не будуць бліжэй да Бога. Калі не будзе чаго ўкінуць у гаршчок і не будзе грошай на неабходныя рэчы — кожны будзе праклінаць такое жыццё!

Забаранена аборцыя. Па-мойму, гэта нечалавечае рашэнне. У многіх выпадках лепей пазбыцца цяжарнасці, чым нарадзіць. І як цяпер радзіць дзяцей пры такіх умовах жыцця? Усе будуць хадзіць голыя, босыя, галодныя. Паволі забараняецца процізачаткавымі сродкамі — касцёл жа забараняе. Зноў будзе па 10-12 дзяцей у сем'ях абадранцаў. Гавораць, што будуць памагаць тым сем'ям, у якіх цяжкія ўмовы жыцця. Але колькі трэба даць, колькі сапраўды трэба, каб пражыць?

Хто яго ведае, ці не дойдзе да таго, што так, як калісь, будзем плаціць за тое, каб магчы збіраць ягады і грыбы? Ці і за пабыўку ў чытальні, і за кніжкі з бібліятэкі...?

Няма ў нас шанцаў, каб жыць спакойна і нармальна. Ніхто не ведае, што чакае нас заўтра...

**Аўрора**

---

ніхто да яе не прызнаваўся. А адзін вылез з вагона, пагаварыў крышку з пагранічнікам і забраў яе назад. А ты бачыш гэтыя жоўтыя палоскі на пероне, як намаляваныя, гэта — былыя лісічкі!

Пыталася я савецкага таможніка:

— Што з гэтымі грыбамі, ці нельга ўвогуле іх цяпер перавозіць? Тыдзень таму можна было!

— Гэта рашэнне Мінкоўскага. Нам тут перадалі, каб мы нікога не прапускалі. Радыяцыя ж, грыбы заражаныя могуць быць!

— Але можа іх праверыць лекар, тут, у Гродне. А якая розніца ў радыяцыі ў Парэччы ці ў Гродне, а ў Беластоку? 70 кіламетраў толькі...

— Кіеў таксама 70 кіламетраў ад Чарнобыля...

У вялікай зале за таможняй шумна, але намнога менш людзей, чым калісьці.

— А ў вас што забралі? — жанчына спагадліва глядзіць на мой худзенькі рукзак і плоскую сумку. — Не бэткі часам?

— Дзякуй Богу, нічога ў мяне не было — ні грыбоў, ні электратавараў...

— Але ж цяжкі ён!

— Тут кніжкі, пісчая папера, гэта важыць!

— А дзе вы дасталі паперу? У Гродне няма ўжо ні лісточка! Нічога тут няма ўжо.

— Калі тут нічога ўжо не купіш. Нават у Вільні нічога ўжо няма!

— А ў Беласток літоўцы ўсё вывезлі. І каўбасу...

— А тут, гавораць, недзе на балотах каля Кузніцы і ля Гродна мае быць якаясьці бяспошлінная зона, ой будзе міжнародны, афіцыйны гандаль!

— А дзе табе, Косцік, да гандлю! Тут прадпрыемствы будуць гандляваць! А ты цяпер колькі страціў на грыбах? У Парэччы купляў — па 14 рублёў за кілаграм.

— 12 кілаграмаў. З рэнты крыху грошай узяў, думаў крыху падзарабіць, дзеці ж малыя.

— Калі б ты прадаў тыя бэткі, зарабіў бы больш паўмільёна. Я прасіў, каб хаця кілаграм пакінулі на суп, але — дзе там! „Ні грыбочка не дазваляе прапусціць ваш начальнік!"

— Праўда — амаль усе грыбы, якія прадаваліся ў Польшчы нямецкім і аўстрыяцкім фірмам, прывозілі з Беларусі і Літвы. Маглі быць заражаныя, і часам былі. Таму і гавораць, што не будуць ужо прымаць лісічак. Вы ўчора стараліся перайсці граніцу ў Літве?

— У нас торбачкі з грыбамі, і не прапусцілі, а праязджалі машыны з прычэпкамі, поўнымі грыбоў. Сын „нашага начальніка" што два-тры дні едзе з грыбамі. Раз памянялі ў Лаздзіяй таможнікаў, на маскоўскіх, і ўсе бэткі тыя яму ў роў вывалілі, 500 кілаграмаў. Зарабіў бы 25 мільёнаў.

— Ну, гэта не можа быць праўдай.

— А грыбы „шэрых турыстаў" — у адкос. Некаторыя topталі свае лісічкі, каб ніхто не скарыстаў.

— Учора такі дождж ліў у Лаздзіяі, усіх нас выгналі з-пад навесу, а тут поўнач. Мы просім: „Не выганяйце нас на дождж, дайце хоць крышку перачакаць, калі нас не прапускаеце з грыбамі". Тады прыслалі два самаходы — з дубінкамі на безабароннага чалавека! А адзін кажа: „Тут тебе не ваша „Солидарность"!"

— Але ж не білі нас! Мы стаім. І ні туды — ні сюды. Поўнач, дождж, далёка да Гродна.

— А сшыткаў камусь не дазволілі перавезці, школьных. То іх выкінуў. Стаяла пачка, людзі пакрысе паразбіралі.

— Больш не паеду. Ніякіх грыбоў і ніякіх гандляў!

— А я мушу паехаць. Я дагэтуль меў 200 тысяч рэнты, дзеці малыя, мушу папрабаваць яшчэ раз. Трое дзяцей у школе, з чаго тут жыць? Цяжка нам, добра, што бабуля дапамагае, але яна ўжо хворая.

Мае размоўцы выселі ў Кузніцы. Цягнік стаіць тут доўга, перад далёкай дарогай у Гдыню.

Кузніцкі люд на таможнікаў злосны. Асабліва за гэтыя грыбы. Добра, што лісічкі ўжо канчаюцца.

**Міра Лукша**

---

**ПАПРАЎКІ**

**„ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ" — З ПАМЫЛКАМІ**

Бываюць такія друкарскія памылкі, якіх чытач сам не заўважыць, бо яны не пярэчаць логіцы, а аўтарскі сэнс напісанага змяняюць. Так здарылася ў адзінаццатым урыўку занатовак „Жыве Беларусь", у якім я меў на ўвазе менавіта **адсунутасць** інтэлігенцкай праслойкі грамадства, а не — адсутнасць. І гаварыў я пра **класную** інтэлігенцыю, а не — класавую, што значыць нешта абсалютна іншае.

**Сакрат Яновіч**

— * —

**НЕ РАЙКІ, А РЭЙПІЧЫ**

У рэдакцыю зазваніў чытач. Ён пацвердзіў інфармацыю, змешчаную ў „Ніве" № 36 ад 9 верасня аб тым, як шмат зрабілі жыхары суседніх вёсак па ініцыятыве свайго солтыса Васіля Купрыяновіча. Чытач прасіў паправіць назву вёскі: замест „Райкі", напісаць „Рэйпічы".

Просім прабачэння ў чытачоў за дапушчаную не па нашай віне памылку.

**Працяг акцыі „Дзеці Чарнобыля“**

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА



Аб тым, што ў Беласток прыехала чарговая група дзяцей з чарнобыльскай зоны, Пятро Прышчэпка даведаўся ў царкве, калі бацюшка звярнуўся да людзей з просьбай прыняць у сваю сям'ю на адпачынак дзяцей з Беларусі. Лагерны сезон, хоць ён і так не быў багаты, у нас ужо скончыўся. А дзецям гэтым патрэбна чыстая і добрая ежа, каб яны маглі неяк падратаваць сваё здароўе.

У Прышчэпкаў у Беластоку добра ўпарадкаваны дом, ёсць вольныя пакоі. „Чаму ж не ўзяць?“ — падумаў. У сваю сям'ю прынялі дзвюх дзяўчынак-сямікласніц Лену і Валю з Івянца, Валожынскага раёна. Перачавалі ў іх доме і выхавацелькі, што прывезлі дзяцей у Польшчу. Дзяўчаткамі заапекаваліся дочкі Прышчэпкаў — 16-гадовая Мажэнка, вучаніца тэхнікума агародніцтва, на змену з сястрою Асяй, студэнткай. Вазілі дзяўчатак па горадзе, разам гулялі, паказвалі ўсё, што нельга не пабачыць.

Але на гэтым не скончылася дапамога дзядзькі Пятра беларускім дзецям. У дапамогу ўключылася і фірма, якой ён кіруе.

Гандлёвае прадпрыемства „Сонполь“ (цэнтраля ў Варшаве) у Беластоку мае сваю гуртоўню, а кіруе ёю Пятро Прышчэпка. Гуртоўня займаецца продажам харчавых прадуктаў, а таксама вырабамі гаспадарчай хіміі і касметыкамі. Існуе гэтае гандлёвае прадпрыемства толькі некалькі месяцаў, але ўжо можа пахваліцца добрымі вынікамі. Сярод шасці гуртоўняў „Сонполю“ беластоцкая заняла ў першыя месяцы працы адразу першае месца ў краіне па абароту таварам і атрыманым даходам. Уся праца беластоцкай гуртоўні накіравана на тое, каб як найменшым коштам мець лепшы даход. Вялікія абароты таварамі даюць магчымасць атрымаць добрую рытмічнасць паставак, эфектыўна выкарыстоўваць складавую плошчу (1147 кв. м. на двух паверхах з ліфтам) і прадаваць па цэнах, найніжэйшых у нашым рэгіёне. Прыязджаюць па тавар сюды не толькі з Беластока і ваколіц, але і з Гіжыцка, Сувалкаў, Высока-Мазавецка, адным словам, як кажа кіраўнік Пятро Прышчэпка, хто раз тут нешта купіў, робіцца сталым кліентам гэтай фірмы. „Сонполь“ стараецца быць лепшай ад канкурэнтаў: толькі добры, высокай якасці тавар і ніжэйшая, чым у суседніх фірмах цана. Дзякуючы гэтаму дэвізу фірма можа добра адчуваць сябе на сённяшнім рынку, дзе тавар шукае кліента, а той не заўсёды можа знайсці грошы нават на патрэбныя яму рэчы. У фірме працуе толькі 14 чалавек. Няма сярод іх людзей, без якіх можна было б абысціся. Кожны мае сваё акрэсленае месца, за якое адказвае. Няма тут ніводнай прыбіральшчыцы, падавальшчыцы ці іншай дапаможнай сілы — кожны сам прыбірае на сваім рабочым месцы. Фірма працуе вельмі ашчадна — няма дырэктарскіх кабінетаў, непатрэбнай паперкавай работы. Кожная ашчаднасць фірмы — гэта даход працаўнікам. А яны не наракаюць на заробкі.

Дык вось гэта фірма і гэтыя людзі, каб дапамагчы дзецям з-пад Чарнобыля, згадзіліся адчыніць пры сваёй гуртоўні маленькую краму і прадаваць па цэнах гурту тавар для сем'яў, якія прынялі да сябе дзяцей з Беларусі. А гэта не такая ўжо дробязь, бо з гуртоўні можна купіць садавіну і гародніну, мясныя і рыбныя кансервы, нават імпартную каўбасу значна танней, бо на 20-30 працэнтаў, чым у горадзе. А ў першы дзень пакупак фірма выдавала кожнаму дзіцяці па кілаграме гарбуза (якраз пачаўся ў гуртоўні на іх сезон) задарма, у падарунку. Тут, у будынку „Сонполя“, мне давялося сустрэцца з людзьмі, якія прыйшлі сюды, каб зрабіць нейкія пакупкі. Размаўляем з Галінай Шымчак і Рамуальдам Калантаем. Яны ўзялі да сябе на адпачынак двух хлапчукоў — Васю і Дзіму.

— Вельмі добрыя дзеці, — хваліць пані Галіна, — спакойныя, паслухмяныя.

— Мы не вельмі добра ведаем рускую мову, — уключаецца пан Рамуальд, — а беларускай наогул не ведаем, бо мы палякі-католікі, але з хлапчукамі неяк дагаворваемся. Калі нешта не разумеем, дык у нас суседзі — беларусы. А ў іх дзяўчынка ёсць, якая з нашымі хлопчыкамі ахвотна гуляе.

Рамуальд Калантай апякуецца харытатыўнай крамай, у якой можна даслоўна за грошы купіць вельмі добрыя рэчы (напр., касцюм мужчынскі за 20 тыс., а кашулі ці світары нават за тысячу-дзве). Бо ў гэтую краму людзі прыносяць рэчы, яшчэ зусім новыя. Пан Рамуальд запрашае ў гэтую краму (вул. Свентаянская, насупраць уваходу ў фабрыку „Біруна“) усіх апекуноў дзяцей, можа, і яны знойдуць для сябе нешта прыдатнае.

Сустракалася я і з іншымі сардэчнымі людзьмі. Усе апекуны стараюцца, каб дзецям у іх падабалася, возяць іх паказваць горад, купляюць падарун-



*Данута Пархоўская абслугоўвае апекуноў дзяцей з чарнобыльскай зоны — прадае ім па гуртовых цэнах харчовыя прадукты.*

---

## ЮР. МОНВІД

# СТРАШНЫ ГОД

**ФРАГМЕНТЫ ЎСПАМІНАЎ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА**

(Заканчэнне)

### НАДЗЕЯ

І заўсёды з'яўлялася ў галаве пытанне: як доўга гэта будзе трываць? Добра, калі месяцы. Ну, можна неяк вытрываць, калі год. А што рабіць, калі гэткае становішча пратрывае колькі гадоў? А можа гэтак застанецца ўжо назаўсёды?!

Адзін раз я спаткаўся на Сніпішках з Улад. Казлоўскім. Мы затрымаліся збоку, на беразе Вяллі і пачалі гутарку на гэтую тэму.

— Калі можа распачацца вайна? — пытаюся.

— Я думаю, — кажа Казлоўскі, — што не раней як за дзесяць год. Цяпер вайна з бальшавікамі немагчыма...

Божа мой! Праз дзесяць гадоў! Хто ж гэта вытрымае!

А тымчасам усюды і ўсе гаварылі пра вайну. Розныя палітрукі, упраўдомы на сходах, п'яныя камандзіры, — усе гаварылі аб немінучай вайне.

Усе бальшавіцкія агенты пагражалі кулаком у бок Нямеччыны, і не скрываючы, казалі, што вось-вось пачнецца вайна.

І гэткія змораныя, як я, людзі жылі толькі гэтай надзеяй. Бо без гэтай надзеі жыццё было б неўмагату, і калі часам у часіны песімізму гэтая надзея слабела, дык сілаў ужо не было далей хавацца, сілаў да жыцця не было і ўжо чалавек хацеў выйсці з падполля і добраахвотна аддацца ў рукі бальшавікоў: каб хутчэй ужо быў канец.

Але людзі ўпорыста шапталі: будзе хутка вайна, і гэтай надзеяй падтрымоўвалі сябе...

Было нас у Вільні трох салаўчан, гэта значыць людзей, якія былі на салавецкай катарзе і пасля такім ці іншым чынам вызваліліся з яе.

Д-р Ф.П., я і К.С. Апошні ўладзіўся за тэхніка і працаваў 60 кіламетраў ад Вільні ў мястэчку А. пры будове мосту. Першы з іх адразу, як прыйшлі бальшавікі, прапаў недзе. Як я пасля даведаўся, уцякаў праз граніцу, там злавілі яго бальшавікі і пасадзілі ў астрог. Апошні з нашай тройкі абяцаў мне, што, як толькі будзе ваканс, уладзіць мяне за вартаўніка пры мосце...

Адзін раз, заглянуўшы ў сваю хату, я даведаўся, што К.С. быў у мяне з весткай, што ваканс вольны, што сёння трэба ехаць. Да адыходу цягніка ўжо заставалася мала часу. Я ўсхапіўся і пабег на вакзал. Паспеў. Уздыхнуў з палёгкай, седзячы ў вагоне і пакідаючы Вільню, дзе зямля ў мяне пад нагамі гарэла.

Там, у мястэчку А., будзе шмат бяспечней.

І я не памыліўся.

### СПАКОЙНАЕ МЕСЦА

На беразе рэчкі Мэрэчанкі, два кіламетры ад мястэчка А., будавалі мост. Ужо другі год цягнуліся работы, а канца не было відаць. Былі дошкі, дык цвікоў не хапала, былі цвікі, дык іншага нейкага матэрыялу не было. Адным словам, усё ішло па-бальшавіцку.

Вось пры гэтым мосце я быў назначаны за вартаўніка.

Пры мосце была будка, дзе пераховўваліся інструменты: пілы, сякеры, ды інш. Тутака, у гэтай будцы на лаве я наладзіў сабе пасцелю, тутака жыў, абеды варыў на вогнішчы перад будкай. Нідзе не трэба было заяўляцца, толькі трэба было запісацца ў прафсаюз.

Я пайшоў з гэтай мэтай у мястэчка і там зарэгістраваўся ў прафсаюзе як работнік з дзеда-прадзеда і атрымаў прафсаюзную кніжку.

Жылося ціха, спакойна, бесклапотна, а галоўная рэч — бяспечна. Ніхто тут мяне не ведаў, нікога са знаёмых я тут не спаткаю, ніхто тут не здагадаецца, хто я.

Быў ужо месяц травень. Ужо было цёпла. Можна ўжо было купацца. Блізка быў лес. Пасля трывожных віленскіх перажыванняў тут я адчуваў сябе, як на летнім адпачынку.

Працы не было ніякай. Раніцай трэ было выдаць работнікам інстру-



*Пятро Прышчэпка — кіраўнік гуртоўні „Сопполь“.*

кі. І не дзіўлюся гэтаму. Шмат перажыў наш народ, шмат пабачыў у жыцці, а такой трагедыі, як чарнобыльская, нельга параўнаць ні з чым. І ніхто не ведае, чым гэтая бяда можа яшчэ абярнуцца для чалавецтва ў будучыні.

А нашыя людзі, чулыя і добрыя, шырока адчыняюць свае сэрцы і гасцінныя дамы для людзей, якім патрэбна дапамога.

І вялікае дзякуй усім за гэта. Яшчэ адна група — 103 дзяцей з чарнобыльскай зоны правядуць некалькі тыдняў у чыстым асяроддзі, сярод добрых людзей і неатручанай ежы.

**Яніна Чарнякевіч**
**Фота аўтара**



*Кіраўнік складу ў гуртоўні „Сопполь“ Рамуальд Семянюк.*

# З мінулага

## ЯК НАС БАЧЫЛА ПОЛЬСКАЯ ЖУРНАЛІСТКА

Ядвіга Імялянка з'яўляецца аўтаркай артыкула „З пушчы Белавежскай. Нарысы і заметкі“, змешчанага ў польскім каталіцкім штомесячніку „Польская сям'я („Rodzina Polska“) № 9 ад верасня 1928 г. Напісала яна яго ў жніўні 1928 г., у час свайго некалькітыднёвага прабывання ў прыпушчанскай вёсцы Папялева. У артыкуле знахозадзім, м. інш., даволі вялікія фрагменты, прысвечаныя тутэйшым беларусам. Вось як нас ахарактарызавала пані Імялянка:

„Этнаграфічна дзіўна рэкамендуецца пушча. Нацыянальнага пачуцця нямнога (у жыхароў — П.Б.). Спытаныя пераважна адказваюць, што яны „тутэйшыя“, або з нейкай збянтэжанасцю растлумачваюць, што „ходзяць у рускую царкву“. Іншыя ў сваю чаргу з філасофскай усмешкай паясняюць: „да вайны, пане, тут была Расія, зараз — Польшча“. Дык цяжка штосьці больш выцягнуць. А калі б спытаць пра адносіны да гэтай Польшчы, зноў філасофскі сказ: „Так, як начальства плахое, то ўсё плахое, начальства харошае, то ўсё харошае“. Маючы такія дадзеныя, цяжка сцяміць, як гэта там фактычна з іхняй нацыянальнасцю ёсць. Трэба спецыяльнага даследчыка“.

Усё-такі пані Імялянка прыкмячае, што „... пераважаюць беларусы — хітрыя, спрытныя, не вельмі даверлівыя, па сутнасці някепскія, аднак лянівыя і любячыя „бутэльку“ (водку). П'юць так, што нярэдка п'янымі бываюць і дзеці, выемоктваючыя з малаком маці забойчы для іх алкаголь. Праклёнаў многа, найзвычайнейшыя і, магчыма, цэнзурныя, гэта „каб цябе воўк разадраў“ і „каб цябе яма завалі-ла“. Набожнасць, бадай, фармальная, вера ў чары і забабоны развітая. Мова нейкая складаная — ні беларуская (з якой аўтарка сутыкалася ў іншым месцы — П.Б.), ні руская, от такая сабе „тутэйшая мова“, з польскай мовай на дадатак вымяшана. Па-польску вучацца хутка і ахвотна, карыстаюцца гэтай мовай у гутарках з палякамі, зразумела. Задаволеныя, калі пахваліш, што добра размаўляюць па-польску. Наогул маюць шмат самалюбнасці і любяць быць хваленымі. Гатовыя ісці на ўсялякія кампрамісы, каб дабіцца пахвалы“.

У іншым месцы аўтарка ўспамінае пра беларускія спевы: „Асаблівыя іх мелодыі ўбогія, у пераважнай частцы молевыя, у вясельных разгульных песнях гучыць аднак нейкі смутак і якаясь дзікая, чужая нота. Спяваюць таксама шмат песняў, прынесеных з Расіі або пачутых у палякаў, працуючых у дрэваапрацоўчай прамысловасці. Сярод гэтых „новых“ песняў ёсць і аперэткавыя, і кабарэтныя“.

Заўважае Я. Імялянка і цяжкую працу пушчанскіх беларусаў, нягледзячы на іх „ляніўства“. Піша, што „сенакос на тыдні выцягвае сем'і на дрыгвяныя лугі (...). Харчуюцца ў час сенакосу хлебам, вадой, некалі толькі нейкай прыправай ці сырам. Часта і малых дзяцей, пакладзеных у плеценыя з лазы калыскі, забіраюць на лугі. Калыскі гэтыя, падвешаныя на шнурах, забяспечваюць дзіця ад укусаў гадзюк, і маці спакойна працуе, заграбляючы „граблямі“ сена, у той час, калі бацька косіць траву, стоячы часта па калені ў вадзе. Скошаную траву выносяць на сухія месцы, а потым на двух доўгіх калах, т.зв. „насілках“, пераносяць паасобныя копкі ў больш выгадныя месцы, адкуль, калі луг не надта аддалены ад хаты, тут жа іх і забіраюць“.

„І хаця праца ў час сенакосу марудная, — як сцвярджае аўтарка, — то калі трапіцца недзе вяселле, хрысціны або нейкая другая аказія, то „бутэлек“ некалькі дзесяткаў лопне! І то не „бутэлек“ піва, але водкі — „мапапольскі“. П'юць значна больш, чым у іншых кутках Польшчы“.

Што ж, як нас бачаць, так пра нас пішуць! Варта аб гэтым заўсёды памятаць.

Падаў у друк **Пётр Байко**

# РАЗБОЙНІК

Мікіта павёў на рынак карову. Доўга прыйшлося стаяць, пакуль яе прадаў. Відома, калісьці людзі не мелі столькі грошай, як сёння.

Вечарэла, калі выязджаў з рынку. Зусім сцямнела, калі даехаў да лесу. Мужчына быў задаволены, што ўзяў столькі, колькі хацеў, — добры купец трапіўся. Багаты, мусіць, быў, калі не таргаваўся.

— Будзе за што, — думаў Мікіта, — купіць дрэва на дом. Ёсць апшчаднасці, і яшчэ гэтыя грошы!

Раптам на дарозе ўбачыў чалавека, які нёс нейкі клунак на плячах.

— Гэй, чалавеча! — крыкнуў незнаёмы. — Калі ў Бога верыш, то падвязі.

Мікіта быў чалавек спагадлівы і ўзяў незнаёмага на свой жалязняк. Конь ішоў павольі. Мужчыны разгаварыліся.

— Харошы ў цябе конь, — усміхнуўся незнаёмы, — сабе такога прыдалося б мець.

— А што, у вас няма?

— Ёсць. Я толькі не хацеў непакоіць каня дзеля гэтага клунка.

Мікіту агарнуў страх.

„Не інакш, як разбойнік“, — падумаў Мікіта.

Незнаёмы хваліў каня і ўсё мацней хіліўся да Мікіты, як быццам хацеў выпіхнуць яго з воза. Мікіта зразумеў, што справа дрэнь. Кінуўся на хітрасць.

— А бадай яго, — сказаў, — вось там казёл стаіць.

— Дзе? — глянуў у бок незнаёмы.

Мікіта піхнуў яго, аж той выпаў з воза, пасля сцябануў бічом каня.

Незнаёмы паспеў схапіцца за шыю каня. Мікіта сцёбаў то па ім, то па кані. Нарэшце разбойнік пусціў конскую шыю.

— Аддай хоць мой клунак! Аддай! — здалёк нёсся голас незнаёмага.

Прыехаў Мікіта дадому і развязаў мяшок, а там — вострыя нажы і сталёвыя пруты!

**Аўрора**

менты, а пасля — сядзі сабе з папяроскай на сонцы і раскашуйся жыццём.

Было нас трох вартаўнікоў на змену, кожны меў па восем гадзін дзяжурства.

Яны не цікавіліся шмат маёй асобай, глядзелі на мяне як на свайго таварыша, ні аб чым не распытваючы.

Мой вонкавы выгляд зусім адпавядаў майму становішчу. Сядзеў я босы, вопратка на мне была падзёртая, латаная, ды і ўсёй вопраткі на мне ў гэту летнюю гарачыню было толькі порткі ды кашуля.

Калі хто ішоў ці ехаў каля маёй будкі — не звяртаў на мяне ўвагі. Але раз вось затрымаліся каля мяне нейкія два праходзячыя інжынеры, каб прыкурыць папяросу. Пачалі гутарку.

— Вы тут хто гэткі?

— Я вартаўнік.

— Гм... Так... Цяпер усе... „былыя людзі“ ў вартаўнікі пайшлі, — заўважыў адзін з іх.

Гэтая гутарка вялася пры адным з работнікаў, што сядзеў пры мне. Той глядзеў на мяне падазрона. Пасля, як пайшлі незнаёмыя, пытаецца:

— Яны вас ведаюць?

— Не. Першы раз бачу.

— А чаму ж яны гэта?

Больш нічога не сказаў.

І сапраўды я гэтых людзей першы раз бачыў. Хто яны: ворагі ці прыяцелі? — дагэтуль не ведаю. Але іхняя гутарка была неасцярожная.

### ШТО ДАЛЕЙ?

Няраз у галаву прыходзіла думка: а што рабіць, як мост ужо будзе закончаны? Бо ж навaт пры бальшавіцкіх тэмпах працы мост у рэшце рэшт калісь будзе пабудаваны. А тады зноў шукаць з дня на дзень новага начлегу ў Вільні, хавацца як загнаны звер і жыць у вечным страху і небяспецы?

Тэхнік, мой салавецкі камрад, пацяшаў мяне, што ўладзіць на зіму работнікам на дарозе. Але для гэтага патрэбны фізічныя сілы і трэба будзе жыць у вёсцы, значыцца, сярод людзей...

### 22 ЧЭРВЕНЯ

Быў цёплы сонечны дзень. Я сядзеў перад сваёй будкай і варыў на вогнішчы снеданне. Глянуўшы на дарогу, я ўбачыў аднаго з маіх таварышоў-старажоў, як ішоў да мяне.

На змену — яшчэ рана. Сёння нядзеля. Мусіць, выйшаў прагуляцца.

— Добры дзень!

— Добры дзень! Чулі?

— Што?

— Вайна.

— Ха-ха-ха! Жартачкі. У вас заўсёды гэткія незвычайныя навіны.

— Сёння Молатаў гаварыў па радыё... Вайна!...

— Вы чулі?

— Не, я не чуў, але мне казаў чалавек, які чуў.

— Вось заўсёды гэтак: я не чуў, але нехта чуў... Калі вы самі не чулі, дык і не кажыце...

— Калі ўсе ў мястэчку кажуць.

— Брахня. Глупства. Не веру.

Селі. Закурылі. Да нас падыйшоў работнік з суседняй фабрыкі, якая стаяла за мястэчкам, непадалёк ад майго маста...

Ізноў:

— Добры дзень!

— Чулі?

— Аб чым? Аб вайне?

— Але.

— Не паверу...

Па дарозе з боку мястэчка паказаўся нейкі веласіпедыст. Відаць было, як моцна націскаў педалі, спяшаючыся. Едзе ў кірунку маста, хоць дарогі праз мост няма, бо яшчэ нават падлога не пакладзена. Чаго яму спяшацца ў гэты цёплы, святочны дзень? Куды імкнецца гэты спацелы, чырвоны, зморамы веласіпедыст? Параўнаўшыся з намі, саскочыў са сваёй машыны. Гэта быў нейкі малады жыдок, якога я першы раз у жыцці бачыў.

— Хто тут сторож?

— Я! — адказваю, падняўшыся са свайго месца і падыходзячы яму на спатканне.

— Ві сторож? Ві стойте на этот мост, не адходіте, что б чаго тут не падлажылі... На вашу атветственасть эты мост...

— Слушаю-с.

Незнаёмы жыдок сеў на сваю машыну і паехаў назад, гэтак сама спяшаючыся, як раней.

Цяпер мне стала ясна. Цяпер я паверыў. З радасці я нават забыўся спытаць жыдка, хто ён і ад імя каго дае мне загад. Ці не ўсё роўна? Самае важнае — вайна! Канец маіх мукаў, канец бадзячага жыцця, я буду магчы вярнуцца ў сваю хату і жыць як чалавек. Ужо чырвоная нечысць не дасягне мяне.

Тэкст падабраў **Славамір Адамовіч**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Для самых маленькіх

Мікола Хамянкоў

### РАЗМОВА З КУРАЧКАЙ

**— Яйка, курачка,**
**Знясі нам, —**
**Папрасілі**
**Цiт з Максімам.**
**— Прынясіце мне**
**Зярнятак,**
**Накармлю я**
**Куранятак.**
**Кураняткі падрастуць,**
**Многа яек**
**Нанясуць.**

### МАЛА ЕЛА КАШЫ

**На стозе шчабеча**
**Сарока:**
**— Стог вазьму —**
**Аднясу далёка!**
**— Не трашчы ты, —**
**Бусліха ёй кажа, —**
**Мала ела,**
**Сарока,**
**Ты кашы.**

### НА ЛУЗЕ

**Выйшлі дзеці**
**На лужок**
**І паселі**
**У кружок.**
**На дудзе зайграў Язэп,**
**Коля — на гармоніку.**
**Скачуць, скачуць па расе**
**Непаседы конікі.**



*Аня Баравікова з мястэчка Карма на Гомельшчыне прыехала ў Беласток у 103-асабовай групе дзяцей з чарнобыльскай зоны. Запрасілі яе да сябе ў госці на некалькі тыдняў цёця Жэня і дзядзя Мікалай Гвоздзікі. Міленькая і сімпатычная Аня вельмі ж прыпала да сэрца сям'і Гвоздзікаў. Мабыць, цяжка ім будзе расставацца. Ці на гэтым закончыцца іх сяброўства?*

*Мне ж давялося сустрэць гэтых людзей, калі яны прыйшлі ў фірму „Сонполь" па абяцаны падарунак для дзяўчынкі — спелы і сакавіты вялікі гарбуз.*

Тэкст і фота **Яніны Чэрнякевіч**

Вершы Віктара Шведа

### ПЕРШАКЛАСНІЦА

— Як там у школе? —
Спыталі дзяўчынку.
Адказвае Оля
Ім праз хвілінку:

— Цяжка вучыцца, —
Ніякай забаўкі.
Клас першы бышчам —
А цвёрдыя лаўкі.

Прыехала сёння
Я скорым з Варшавы,
Клас першы ў вагоне.
Не меў цвёрдых лавак.

### ЧАМУ ЧОРНЫ АБО БЕЛЫ

— Ты растлумач мне, мілы Клім,
Той факт незразумелы:
Чаму выходзіць з хаты дым
Раз чорны, а раз белы?

— Калі печ з хлебам аржаным —
Дык чорны дым таксама.
А калі ўбачыш белы дым —
Пірог пячэ нам мама.

### ЛЕПШ УЖО ПРЫНОСІЦЬ ДВОЙКІ

— Ты вучыцца мусіш бойка,
Інакш — наражам мы лазы.
Прынясеш дахаты тройку —
Будзеш біты тры разы.

— Быць не можа ў школе цудаў,
Скуль жа мне пяцёркі браць?
Двойкі вам прыносіць буду —
Двойчы будзеце караць.

### ХТО СТАРЭЙШЫ

Запыталіся Валодзю:
— Хто старэйшы, ты ці брат?
— Брат быў у мінулым годзе
На год старэйшы акурат.

Час аднак імчыць ракетай,
Прыбывае мне гадкоў,
З брацікам у годзе гэтым
Параўняемся ізноў.

### ПРАЦЭС ВЫХАВАННЯ

Мама сынка пытае:
— Што ты чытаеш, Мішка?
— Чытаю, дарагая,
Аб выхаванні кніжку.

Хачу абавязкова
Адказ мець на пытанне:
Ідзе ці правідлова
Маё тут выхаванне?

### ГОРКАЯ ЦЫБУЛЯ

Матуля пытае
Дачусю Ганулю:
— Чаму ты мачаеш
У цукар цыбулю?

— Убачыць, мамуся,
Мне будзе цікава,
Ці ты яе ўкусіш
Зусім без прыправы?

### Я ПОМНІКАМ НЕ БУДУ

— Чый гэта будзе помнік,
Ты растлумач мне, мама?
— Сынок мой, запомні:
Міцкевіча Адама.

(Працяг на стар. 10)

Аляксей Якімовіч

## Як я стаў героем дня

**(Урыўкі з кнігі „Гордзіеў вузел")**
**Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Гэта было ў суботу. У гэты дзень неспадзявана я стаў героем дня.

А ў нядзелю адчуваў сябе вельмі кепска.

Пад акном Віцька і Міцька ходзяць, пасвістваюць. Гэта яны мяне клічуць. У хату не ідуць, баяцца заходзіць пасля тае гісторыі з мотароварам.

Тата сам іх папярэдзіў:

— Каб да Алеся — ні нагою.

Ходзяць Віцька з Міцькам, пасвістваюць, а я з-за фіранкі асцярожна цікую. Каб не заўважылі, каб не даведаліся, што дома. А як хочацца на двор да іх! Ды боязна. Раптам праведалі, што ў гульню гэтую ўвязаўся. Засмяюць. Вось і сітуацыя. І хочацца, і колецца.

І навошта я настаўніку паверыў? Навошта даў згоду алфавіт шукаць? Гульню прыдумалі, а я паверыў. Як апошні прасцяк. Вакол пальца мяне абвялі. І ў школе заўтра праходу не дадуць. Любы першакласнік пальцам паказваць будзе:

— Вунь той пайшоў, што алфавіт шукае.

Што рабіць? Хіба на двор пайсці да Віцькі і Міцькі? Мо і не ведаюць яны нічога? Але не відаць іх. Падаліся некуды. Няйначай, на футбол. А тут сядзі...

— Чаго ты кіслы такі? — западозрыла нядобрае мама. — Можа, зноў што натварыў?

— Баліць зуб, — схлусіў я.

І хутка нарады быў, што так няўдала схлусіў.

Спачатку мама, як звычайна, разбурчалася:

— Даўно прасіла: лячы зубы. „Не, не буду". Данекаўся, пакуль не ўзяло. Так табе і трэба. Няхай круціць, няхай тузае.

— Потым пабегла на кухню, прыносіць кубак вады і... таблетку: — Пі анальгін. Паможа.

Розных там таблетак і парашкоў я не пераношу.

— І так пройдзе, — адмаўляюся.

— Зноў за сваё. Пі, кажу. Усё. Не адчэпіцца. Давялося выпіць.

Называецца, падмануў. На сваю галаву.

Невядома, што яшчэ зрабіла б мама з маім зубам, каб у дзверы не пазванілі. Адчыняю — Мікола і Аленка перада мною. У спартыўных касцюмах, з рукзакамі за плячамі. Вось дык госці на маю галаву зваліліся.

— Вы чаго? — на парозе стаю, не пускаю ў хату.

— У дапамогу мы, алфавіт шукаць, — адхіліўшы мяне, працiснуўся у дзверы Мікола. І Аленка следам за ім.

— Небяспечна аднаму. Цяжка. Не проста алфавіт з палону выручаць, — засакатала, як сарока.

— Не пайду. Нікуды не пайду. Выдумалі гульню, — наадрэз адмаўляюся.

— Ты ж абяцаў. Ты ж... — ажно сціскае кулачкі Аленка.

А я, каб пазлаваць:

— Мала што абяцаў. Абяцанага тры гады чакаюць.

— Алеська, ты чаму гасцей не запрашаеш? — Мама тут як тут.

Яшчэ яе не хапала. Усё ёй трэба ведаць.

— Вы, відаць, аднакласнікі Алесевы? — прыязна ўсміхаецца.

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

### ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

ца мама. На Віцьку і Міцьку спадылба глядзіць, а ім дык усміхаецца. Падумаеш: прынцы заморскія завіталі.

— Але, аднакласнікі, — і Аленка ажно ззяе ўсмешкаю. — На экскурсію мы сабраліся, а Алеся вашага няма. Класны папрасіў, каб зайшлі па яго.

„І чаго здзекуецца, — думаю сабе я. — Махлюе і вокам не міргне. Гладка чэша."

— Зуб Алесю баліць, — прастагнала мама.

Мне б падтрымаць яе. Ды куды там. Усё наадварот.

— Не баліць. Суцішыўся ўжо, — ляпнуў неўпапад.

— Тады ідзі з дзецьмі, — замітусілася мама. — Няхай яны хвілiначку пачакаюць, а я дапамагу табе сабрацца.

Хвіліначка гэта на добрыя паўгадзіны расцягнулася. Мама, напэўна, вырашыла, што я адпраўляюся не інакш, як на край свету. І не на адзін дзень, а на цэлы год. Чутно было, як бядуе, што рукзак малы. Няйначай, увесь халадзільнік задумала туды ўмясціць.

Спярша мяне гэта радавала. Была надзея, што надакучыць Міколку з Аленкай сядзець, што не вытрымаюць, на свежае паветра пададуцца. А я тым часам як-небудзь угавару маму, дома застануся.

Ды калі мама дала ім шакаладныя цукеркі — вялізны карабок шакаладных цукерак, — я зразумеў, што памыліўся.

Разваліліся мае госцейкі ў мяккіх крэслах, як у сябе дома. Сядзяць, цукеркамі частуюцца. Так сядзець можна. Нават да вечара.

Што рабіць? Пасунуўся я на кухню дапамагаць маме рукзак складваць. Дакладней, лішняе з яго выкідаць.

**(Працяг будзе)**




### ПРЫГОЖАЯ КІНГА

Даўней, як панавалі каралі, у ваколіцах Нарвы, дзе цяпер цвітуць палі і сады, былі дрымучыя лясы. Высокія, магутныя дрэвы гаманілі з нябёсамі, з сонцам, з месяцам. У такім лесе і днём і ноччу было цёмна. Светлыя, сонечныя прамені не маглі прасякнуць праз сплёт галінак да лясных маленькіх раслін. У лесе вадзілася многа розных звяроў і птушак. Рыкалі мядзведзі, вылі ваўкі, крычалі птушкі — усё гэта злівалася ў адзін магутны голас, ад якога ўвесь лес дрыжаў, дрэвы хісталіся.

Праз лес плыла вялікая вірлівая рака Нарва. Яна бегла хутка, ірвала берагі. Старыя дубы валіліся ў раку і разам з ёю плылі далёка-далёка.

У тым месцы, дзе рака ўлівалася ў другую раку, лес быў радзей, а за лесам цягнуліся зялёныя палі, сады і агароды, пасярод якіх на беразе Нарвы стаяў прыгожы палац каралевы Кінгі.

У садах спявалі птушкі.

Каралева Кінга цэлымі днямі бывала ў садзе, у лесе, збірала грыбы і ягады.

Зусім рана, калі сонейка яшчэ не ўзышло, калі раса пакрывала раслінкі, выйдзе каралева Кінга з кошыкам у руцэ ў лес. Распусціць свае доўгія прыгожыя косы, сядзе на пянёк і слухае, як спяваюць птушкі. Яна не толькі любіла слухаць птушак, але любіла і саміх птушак. Прыносіла ім яду: пшаніцу, авёс. І птушкі таксама любілі сваю каралеву, ляталі ўслед за ёю: сядзе яна пад яблыняй — і яны тут, сядзе яна на лавачцы — і яны тут.

І ўсё пяюць і пяюць.

А спеў іх нёсся далёка-далёка.

Бывала, сяляне, якія працавалі ў двары, стануць, здымуць шапкі ды прыслухоўваюцца да той чароўнай музыкі.

І так лёгка робіцца на душы! Аднаго разу, калі каралева выйшла ў сад, затрэслася зямля. Затрэслася раз, другі, трэці. Вакол пацямнела, і палац разам з усім праваліўся пад зямлю. На тым месцы засталася толькі невялікая горка...

Каралева Кінга не забывала сваіх дарагіх птушак. У поўнач яна выходзіла з зямлі, распальвала агонь і садзілася на камень.

Праязджаючы, людзі бачылі, як свяціўся агенчык на гары, але баяліся туды ісці.

А каралева Кінга кожную ноч выходзіла на гару. Яна чакала, каб які чалавек прыйшоў да яе і нарваў ёй букет кветак.

Аднойчы па ўзгорку на коні праязджаў стары разбойнік са сваім дабыткам. Раптам убачыў ён агеньчык на гары і падумаў, што гэта кавалак золата так свеціць.

Пайшоў ён туды. На самым версе гары, на камені, сядзела красуня-дзяўчына. Гэта і была каралева Кінга. Яе прыгожыя льняныя валасы краналіся самай зямлі, чорныя вочы свяціліся, як дзве зорачкі, а чырвоныя шчокі палалі агнём.

Перад ёю стаяў адкрыты куфар, поўны золата. Брала яна гэтае золата ў жменю, падымала руку ўверх і сыпала зноў у куфар. А здалёк здавалася, што гарыць агонь. Стары разбойнік падышоў бліжэй да каралевы, але не мог вымавіць і слова.

Кінга павярнулася да яго і ласкава сказала:

— Ідзі, добры чалавек, нарві кветак і прынясі іх мне, а я табе аддам усё золата.

У той момант стары разбойнік, як дзікі звер, кінуўся з нажом на каралеву.

Але што за дзіва? На месцы, дзе сядзела Кінга, нікога не было.

Разбойнік махнуў нажом у паветры.

Ізноў дзіва! Дзе стаяў разбойнік, ляжаў вялікі камень.

Гэты камень і зараз ляжыць на гары.




### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

— 12 —

Францыск Скарына з гонарам за набытыя веды падае ў прадмовах сваё навуковае званне: „доктар лекарскіх навук". Як нязвычна было напаткаць гэта ў змрочныя гады сярэднявечча, калі пісцы падпісваліся памяншальнымі імёнамі ды самазневажалі сябе „смиренный раб", „худый сочинитель". Скарына не прымае такога таптання чалавечай асобы. Ён тройчы дае ў выдадзеных ім кнігах свой партрэт — выпадак нечуваны і адзіны за ўсю гісторыю выданняў Біблії ва Усходняй Еўропе!

І ці не Скарыне абавязана такое шчаслівае выключэнне, што мы, беларусы, сёння маем партрэты сваіх ранніх дзеячаў друку, такіх, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі... Бо, як ні шкада, гісторыя кнігадрукавання не ведае партрэтаў ні Швайпольта Фіёля, ні Івана Фёдарава, ні яго паплечніка Пятра Мсціслаўца...

Вось ён глядзіць на нас праз глыбіню стагоддзяў з 1517 года. На ім доктарская мантыя, берэт, з-пад якога выбіваюцца густыя доўгія валасы. Ён сядзіць у нізкім крэсле перад пюпітрам, трымаючы ў правай руцэ пяро, на момант як бы адарваўшыся ад кнігі, што разгорнута перад ім. Справа ад яго стаіць на падстаўцы другая кніга. З пюпітра звісае вузкі абрус з арнаментам і махрамі. На абрусе — вялікі герб, які можна ўбачыць і на іншых Скарынавых гравюрах: сонца, прыслоненае маладзіком...

Чалавек навукі глядзіць на нас з партрэта. Гэта асветнік, які мае на мэце сваёю працаю — выданнем кніг — прынесці карысць „людем простым" ... „к пожитку и ко розмножению добрых абычаев".

Біблія была асноўнаю кнігаю таго часу. Яе вывучалі ва ўсіх школах. Якраз гэтаму твору Скарына аддае сваё найбольшае замілаванне. Усе пражскія кнігі адбіты адною чорнаю фарбаю, а „Песня песняў" аддрукавана Скарынаю ярка, у два колеры — чырвоны і чорны. Ён перакладае і выдае гэтыя кнігі, таму што бачыць у кнігах матэрыял для „навучання сямі вызваленых навук дастатковы". У прадмове да „Псалтыра" ён піша: што гэта „детем малым як початок всякое доброе науки грамоты..." І пасля, пералічваючы па чарзе, ён зазначае, якая з кніг да чаго прыдатная, з якой можна даведацца пра „ваенныя, гераічныя справы", а з якой „умець арыфметыку", а з якой „землямер'е", астраномію — навуку пра зоркі і гэтак далей.

У гэтым пералічэнні сямі вызваленых навук чуваць скарынаў клопат быць універсітэтам для простых людзей, даць ім у рукі кнігу, якая была б энцыклапедыяй у розных галінах ведаў.

Гэтай вялікай надзеяй на кнігу, на яе ролю ў культурным, маральным узгадаванні народа і блізкі нам сёння Францыск Скарына.

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")**

### ПАЗНАЁМІМСЯ

— * —

Я хачу перапісвацца з хлопчыкам. Мне 11 гадоў, вучуся ў 4 класе. Цікаўлюся паштовымі маркамі, адкрыткамі, калькаманіяй. Пасылаю вялікае прывітанне вашай рэдакцыі.

Інэса Макеева

Мой адрас: 346555 СССР, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша 3а, кв. 8.

— * —

СССР, 346503, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Рощевый, 68. Гончаровой Ирине. 7 клас.

— * —

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная 43-70. Ефименко Лиля. 13 гадоў.

(Працяг са стар. 9)

### *Вершы Віктара Шведа*

— Вось помнікам ніколі
Не буду я, вядома.
Бо хто ж мяне зняволіць
Стаяць так нерухома?

**ФУТБОЛ НА ЭКРАНЕ**

Бабуленька старая
Глядзіць якраз футбол.
Унук яе пытае:
— Забілі ўрэшце гол?

Бабуленька праз хвілю
Хлопцу дае адказ:
— Не знаю, ці забілі,
А падалі не раз.

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Знайдзі на гэтых малюнках 25 адрозненняў.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# ПАРОДЫІ

## ПАД ХАТНІМ АРЫШТАМ

*Туман халодны выпру з акна*
*І змрочныя прасветляцца прасторы.*
*Тайком два дзядзькі выпілі віна*
*І аб жанчынах весела гавораць.*
**Віктар Шніп**

Ажно становіцца маркотна,
Калі я выгляну ў акно
І ўбачу: дзядзькі два ўпотай,
Ад жонак збегшы, п'юць віно.

Мая ж душа не заспявае,
Нібы гітарная струна,
Бо я сяджу, сліну каўтаю,
За імі сочачы з акна.

А дзядзькі вольныя — як вецер:
І пляшка ёсць і агурок.
Я мог бы крыкнуць:
„Буду трэцім!"
Ды на дзвярах маіх —
замок.

**Анатоль Зэкаў**
*(„Маладосць", № 8/90)*

Адна маці гаварыла:
— У мяне тры дарослыя дачкі. Усіх трох выхавала, замуж выдала і нават дапамагла ім, каб маглі развесціся. Большага ад маці, думаю, і нельга патрабаваць.

# НІЎКА

— *Ці гэта штосьці сур'ёзнае, доктар?*

## АНЕКДОТЫ АД НІКУЛІНА

* * *

У адэскім порце каля самага прычала выплывае русалка з малым дзіцём на руках і звяртаецца да натоўпу цікаўных:
— А дзе тут жыве вадалаз Жора?

* * *

Дзве старыя дзеўкі сядзяць на панадворку на лавачцы і, засмучана стуліўшы губы, наглядаюць за пеўнем, які ганяецца за адной з курыц і ніяк не можа яе дагнаць. Два разы абабегшы вакол хаты, курыца выбягае на вуліцу і трапляе пад колы грузавіка.
Адна з дзевак гаворыць з пафасам:
— Яна палічыла за лепшае смерць.

* * *

У рэстаране госць пытае афіцыянта:
— Скажыце, калі ласка, ці ў меню ёсць дзікая качка?
— Не, але для вас мы можам раззлаваць хатнюю.

* * *

У Адэсе.
Жонка варыць у кухні, а муж коле дровы на панадворку. Раптам раздаўся гарматні выстрал. Жонка, выглянуўшы праз акно, пытаецца:
— Абрам, чаму страляла гармата? Што, мяса прывезлі?
— Не, гэта начальства з Масквы прыехала.
Праз некалькі мінут зноў раздаўся выстрал.
— Абрам, што, мяса прывезлі?
— Я ж табе ўжо гаварыў, начальства з Масквы прыехала.
— А што, за першым разам не папалі?

*(„Огонёк"),*

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:
Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.
У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.
**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| **3400.** | **Моніка Зуліг (Швейцарыя)** | **— 1800 зл.** |
| **3401.** | **Анатоль Цімашук (Катоўка)** | **— 5000 зл.** |
| **3402.** | **Юры Баравік (Ягаднікі)** | **— 10000 зл.** |
| **3403.** | **Людміла Клін (Гайнаўка)** | **— 1200 зл.** |
| **3404.** | **Антаніна і Іван Ваўранюкі (СССР)** | **— 100000 зл.** |
| **3405.** | **Юры Зюзя (Варшава)** | **— 25000 зл.** |
| **3406.** | **Марк Радзімскі (Гданьск)** | **— 30000 зл.** |
| **3407.** | **Аляксей Харкевіч (Гайнаўка)** | **— 12000 зл.** |
| **3408.** | **Васіль Сакоўскі (Гайнаўка)** | **— 7000 зл.** |
| **3409.** | **Канстанцін Майсеня (Гайнаўка)** | **— 12000 зл.** |
| **3410.** | **Міхал Казлоўскі (Маладзечна, БССР)** | **— 27600 зл.** |
| **3411.** | **Рыгор і Вера Шэйпакі (Аўстралія)** | **— 50000 зл.** |
| **3412.** | **Янка Якімюк (Гайнаўка)** | **— 12000 зл.** |
| **3413.** | **Людміла Кісляк (Гайнаўка)** | **— 7000 зл.** |
| **3414.** | **Міраслаў Вішнеўскі (Гайнаўка)** | **— 2400 зл.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## НА ГРАНІЦЫ

Таможнік правярае цягнік. Увайшоўшы ў першае купэ, пытаецца:
— Віно? Лікёры? Спірт?
Элегантны пасажыр, які чытаў газету, глянуў на яго і сказаў:
— Дзякую, я ніколі зранку не п'ю.

## ПАДРЫХТАВАЎСЯ

Пытаецца адзін студэнт у другога:
— Колькі экзаменаў ты ўжо правапіў?
— Калі лічыць заўтрашні, дык тры.

## КУРЫ І ЯЙКІ

Напрадвесні на сходзе сялян
Быў калгасу давердзены план:
Колькі глебы вясной узараць,
Колькі зерня з той глебы
сабраць,
Па сваёй працавітай натуры
Колькі яек знясуць нашы
куры...
Калі сілы на ўменне памножым,
То ў спаборніцтве мы
пераможам.

Гтады ў кожнай хаце
Назаўжды запануе багацце.
Засядалі ўвесь дзень без абеду.
А пасля
Гаварыла бабулька спагадліва
дзеду:
— Дзе ты быў, мой каханы,
мой любы Нупрэй?
— Быў у клубе. Там яйкі
вучылі курэй.

**Сямён Пацёмкін**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 3.250 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— październik — 5.200 zł,
— listopad — 5.200 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1278/90 r.